


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 33 (1120) ГОД XXII БЕЛАСТОК 14 ЖНІЎНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# БУДЫ

Хто хоча з галавою акунуцца ў лясной чашчобе, хадзіць па стаптанай нагамі вялікіх князёў літоўскіх, каралёў польскіх і цароў рускіх зямлі ды кожны вечар, п'ючы з кубка яшчэ цёплае, пеністае малако-сырадой, слухаць новую красачную легенду ці казку, таму, зразумела, рэкамендую наведаць вёску **Буды.** Яна знаходзіцца ў 10-12 кіламетрах на паўночны захад ад мястэчка Белавежа, у самым сэрцы пушчы. Калі вы апыніцеся на яе пакручастай вулачцы, на першы погляд не заўважыце, напэўна, асаблівай розніцы, якая б вылучала яе з ліку іншых сёлаў, што параскіданы вакол пушчы. Але вось на адной з лавачак на вуліцы вы падсядаеце да старэйшага чалавека, і слова за словам перад вамі пачынае ўсплываць той непаўторны пушчанскі свет, дзе даставерныя гістарычныя факты спавівае дзівосная легенда, а сённяшні дзень сужыўся з верай у нячысціка, што вадзіў людзей па пушчы, садзячы перад імі ўяўныя грыбы, ці хапуна, які ўсю ноч, бывала, ездзіў вярхом на Абрамку, а раніцай пакідаў яго, знясіленага, у раздвааенні камля на прыдарожнай асіне. Займальна, праўда? Яшчэ б!

Таму не станем калупацца ў розных археалагічных знаходках, хоць іх тут не мала. Пакідаем іх для артыкулаў аб суседніх з Будамі вёсках Тэраміскі і Пагарэльцы, а сёння мімаходам толькі ўспомнім адкрытае пахаванне з III-IV ст.ст. нашай эры ва ўрочышчы **Гайдукі,** „княжыя" курганы растолцкага тыпу і курганы з IX-XI ст.ст., што рассыпаны па пагорках над берагамі **Лутоўні і Нараўкі.** Затрымаемся крыху даўжэй ва ўрочышчы **Старая Белавеж,** што знаходзіцца кіламетрах у чатырох на ўсход ад Будаў. Легенда кажа, што іменна тут, на сухім беразе Лутоўні, стаяў замак, у якім прабывалі польскі кароль **Уладзіслаў Ягайла** і вялікі князь літоўскі **Вітаўт** у часе супольных паляванняў у пушчы ў 1409 годзе, як яны рыхтаваліся да паходу супраць крыжакаў, і ў 1426 годзе, калі ў абедзвюх краінах шалела зараза. Гудзела тады пушча, магчыць, не столькі ад звярынага рэву, колькі ад людской валтузні. Асабліва апошнім разам. У Белавежы ў тым часе не было ні ахвоты, ні часу на роспач над простым людам, непахаваныя трупы якога ўсцілалі гарады і вёскі. Паляванні захапілі не толькі прыдворную моладзь. Нават прастарэлы Ягайла, якому тады было каля 75 год, не стрываў і стаў шалець ды ганяцца па пушчы. У часе адной пагоні за зверам упаў ён з каня і зламаў нагу. Пасля яго ў Белавежу часценька наведваліся **Казімір Ягелончык, Аляксандр Ягелончык** і іншыя. І чаго толькі не здаралася ім у пушчанскіх нетрах!

Вось, напрыклад, **Аўгуст Другі Сас** любіў з рагацінаю ды паляўнічым нажом самотна хадзіць на мядзведзя. Аднойчы — 3 снежня 1705 года, як скрупулёзна запісаў на пергаменце прыдворны летапісец — такое паляванне амаль не скончылася трагічна для каралеўскай асобы. Аўгуст трапіў рагацінаю ў звера ды не смяротным ударам, звер кінуўся на караля, схапіў яго абедзвюма лапамі і падмяў пад сябе. Толькі дзякуючы сваёй незвычайнай сіле і спрыту ўдалося яму вырвацца з мядзвежых абдымкаў.

Ды не толькі каралі захапляліся паляваннем. Усё жыццё закаханая па вушы ў свайго мужа вялікага князя літоўскага і караля польскага **Аляксандра Ягелончыка** яго жонка вялікая княгіня літоўская **Ялена Іванаўна** (дачка маскоўскага цара) таксама не адступала і на крок ад мужа нават у пушчы. Стаяла яна аднойчы на спецыяльным памосце і пільна сачыла, як муж дзейнічае каля звяроў рагацінаю ды кап'ём. Раптам раззлаванае стада зуброў ударыла ў памост, той абваліўся, і Ялена разам з іншымі панямі апынулася пад капытамі ашалелых звяроў. Асталася пры жыцці, але доўга і цяжка хварэла...

І бадай у адчуванні гэтага незвычайнага багацця трэба шукаць матываў узнікнення легенды, якую мне расказаў 87-гадовы буднянскі старажыл **Павел Валадкевіч.** Паводле яе пачатак Будам далі трое сялян, якіх пасяліў тут кароль Уладзіслаў Ягайла. Іх абавязкам было курыць вугаль, паліць паташ ды гнаць дзёгаць і дастаўляць гэтыя вырабы на патрэбы каралеўскага двара. На самай жа справе Буды значна маладзейшыя: ім не 600, а ўсяго 200 год, і не кароль Ягайла даў ім пачатак, а падскарбі надворны літоўскі **Антоній Тызенгауз.** Гэта па яго ўказанню ў сямідзесятых гадах XVIII стагоддзя праводзілася ўпарадкаванне гаспадаркі ў пушчы, і тады іменна былі паселены ва ўрочышчы **Шчакатова** сяляне, што паходзілі недзе з усходняга **Мазоўша.** Доўгі час яны не трацілі сувязі са сваёй роднай мясцінай. П. Валадкевіч прыгадвае легенду, што пры паншчыне ўцёк адтуль і схаваўся ў Будах прыгонны селянін Блажкоўскі. За ім прыехаў пан, але будняне з каламі ў руках сталі ў абароне ўцекача, і пану парадкам дасталася ад іх. Ён са скаргай падаўся ў маёнтак Ляўкова, да якога тады належалі Буды. Але тамашні ўладальнік сказаў яму ў адказ: „Васпан і так маеш незвычайнае шчасце, што табе ўдалося жывым выйсці ад іх!.."

Сяло мела ўсяго 6 з паловай участкаў зямлі, па 18 дзесяцін кожны (відаць, колішнія 4 валокі), на якіх сядзелі найстарэйшыя тутэйшыя „роды": **Валадкевічы, Вішнеўскія, Камарэўскія, Савіцкія, Шумарскія** і ўспомнены ўжо **Блажкоўскі.**

Тут захавалася памяць пра тое, што будынкі калісьці ўзводзілі выключна з колатых і цесаных „у кант" бярвенняў, дошкі таксама выцесвалі. Будавалі ўсё без адзінага жалезнага гвазда. Абгароджвалі платамі з жэрдак усе палі ад пушчы так, каб не пралазілі зубры, ласі, дзікі і іншая звярына. Людзі займаліся ў асноўным сельскай гаспадаркай, але многа ўвагі адводзілі і працы ў пушчы. Вакол вёскі параскіданы месцы, дзе будняне калісьці нарыхтоўвалі вугаль, паташ і шкіпінар. Яны заўсёды мелі спрыт да працы з дрэвам. Тут выраблялі дасканалыя рабочыя і прагулачныя сані, доўбаны ў камлі хатні і гаспадарчы посуд, вуллі, рыхтавалі многа драніц і гонту, займаліся стапяркай.

Гэтае спакойнае і працавітае сяло разам з суседнімі Тэраміскамі і Пагарэльцамі сталі першымі ахвярамі нямецкіх акупантаў. 25 ліпеня 1941 г. фашысцкія карнікі выселілі будням у ваколіцы Пружанаў, вёску датла спалілі і потым на яе месцы пачалі садзіць лес.

Але Буды адрадзіліся. Адразу пасля вызвалення вярнуліся будняне на свае былыя сялібы і ўзяліся за адбудову. Вельмі цяжка было, аднак праз некалькі год паабапал вуліцы заяснелі смалістыя зрубы новых дамоў, закаласілася збожжа на **Дзедавым Грудку** і

**(Працяг на стар. 4)**



*Павел Валадкевіч — гэта жывы летапіс вёскі.*



*Многа цудоўных старадаўніх песень ведае Вікторыя Шумарская.*



*Малады пчаляр П. Валадкевіч каля старадаўняга вулея.*

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# СУСТРЭЧА

Трыццаць тры гады таму назад ім не давялося сустрэцца ўсім чатыром, пазнаёміцца, пагутарыць, хоць яны сумесна з дзесяткамі тысяч салдат і афіцэраў Савецкай Арміі і партызанаў вызвалялі Беласточчыну ад фашысцкіх акупантаў. Проста іх тады разам лёс не звёў. Упершыню яны спаткаліся ў канцы ліпеня мінулага года, а ў бягучым годзе гэтая ж пара стала часам іх паўторнай сустрэчы.

Сёлета ў канцы ліпеня, таксама як і тады, у сорак чацвертым, на полі стаяла спелае збожжа. Мажны, наліты колас схіляўся на вастрыё касы, нажы жняяркі ці матавіла камбайна; трыццаць тры гады таму назад спелы і пахнучы маладым хлебам колас затоптвалі ў пыл салдацкія боты, колы гарматаў і гусеніцы танкаў і ён не цешыў вока хлебароба. Цяпер у халадку ліпнёвага вечара адзінокая перапёлка на палетку ў цішы кліча: „Пуць палоць!", а тады ў скамечаным збожжы паміралі салдаты і іх патрэсканыя ад смагі губы малілі: „Дайце піць!.."

### БЫЛЫ СТАРШЫНА САВЕЦКАЙ АРМІІ

— На паўночна-ўсходнія подступы да Беластока мы падышлі напярэдадні 26 ліпеня, — успамінае капітан запаса Савецкай Арміі **Ігнацій Сарокін.** — Роту, камандзірам якой я быў, падтрымоўвала батарэя 76-міліметровых гармат. Спрабавалі мы высунуцца з лесу, але нас тут жа контратакавалі нямецкія танкі. Тады мы не столькі выпхнулі, колькі вынеслі на сабе з лесу гарматы, і артылерысты пачалі прамой наводкай біць па танках. Так мы адбілі дзве ці тры контратакі, падбілі 7 танкаў. Пад нашым націскам немцы пачалі адступаць на паўночны захад, і мы выйшлі з боем на паўночную ўскраіну горада, каля Старасельцаў. Пастаўленае заданне мы выканалі. Але гэта дасталася нам вельмі дарагою цаною — многа маіх таварышаў навечна легла ў вашу Беластоцкую зямлю, вельмі многа...

### СУВЯЗНЫЯ ДЭСАНТА „ДАЛЬНІЯ"

**Фёдар Савіцкі** — былы дзеяч КПЗБ на Бельшчыне, вязень Картуз-Бярозы і Дарагабыча, пры савецкай уладзе старшыня сельсавета ў Галадах каля Бельска — з першых дзён нямецкай акупацыі і да самага вызвалення ўвесь час скрываўся. Спачатку супрацоўнічаў з партызанскім атрадам імя Дзяржынскага, што дзейнічаў на Бельшчыне і Гайнаўшчыне, а потым быў сувязным славутага дэсанта „Дальнія", які дзей-

**(Працяг на стар. 2)**

ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"




## Дык хто ж яны, аўстралійцы?

Той, хто возьме даведнік, прачытае: 13,5 мільёна грамадзян Аўстралійскага Саюза! Гэта больш як 100 нацыянальнасцей.

Той, хто прыедзе ў Аўстралію, пачуе, што аўстралійцы, аказваецца, бываюць „чыстыя“ і „нячыстыя“, „сапраўдныя“ і „новыя“, якіх пагардліва называюць „уогі“.

### ЗАБЫТЫ НАРОД

Англійская каланізацыя Аўстраліі прызнана адной з самых жорсткіх. Расісцкая ідэалогія апраўдвала тых, хто зганяў абарыгенаў з урадлівых зямель ля ўзбярэжжа ў глыбіню кантынента.

Большасці са 140 тысяч чарнаскурых аўстралійцаў — нашчадкаў іх, каму ўдалося выжыць, — прадпісана і сёння жыць там. Пераступаць мяжу рэзервацыі без асаблівага дазволу забаронена законам. За парушэнне — штраф, а то і турма.

Як толькі жыхару рэзервацыі спаўняецца 15 гадоў, ён павінен працаваць. Прычым „выконваць такую работу, якую прапануе яму адміністрацыя“ — гаворыць „звод законаў“ штата Квісленд, паводле агульнага сведчання, самага расісцкага штата Аўстраліі.

Чорнаму — самая цяжкая праца, і самая маленькая заплата. Як сведчыць амерыканскі часопіс „Ньюсуік“, большасць з іх наогул не мае работы. Дзве трэці жывуць у крайняй галечы. Смяротнасць сярод чорных дзяцей у чатыры разы вышэйшая, чым сярод белых. Усяго толькі чатыры працэнты ўсіх карэнных жыхароў Аўстраліі заканчваюць сярэднія школы. Па ўсёй краіне толькі 56 чарнаскурых аўстралійцаў наведваюць універсітэт.

### „МЯСА ДЛЯ ФАБРЫК“

Абарыгены — самая прыгнечаная група насельніцтва Аўстраліі. Не намнога лепшае становішча, у якім апынуліся тут імігранты з кантынентальнай Еўропы. Асабліва цяжка тым, хто прыехаў нядаўна.

Навічкі прыязджаюць, не ведаючы ні аўстралійскіх законаў, ні звычаяў, гора таму, хто не ведае і англійскай мовы. Холад і недавер'е сустракаюць іх. „Вы адчуваеце сябе адзінокім і бездапаможным, — расказвае Хікмед Уджурлу, які прыехаў у Аўстралію з Турцыі. — Вас проста не заўважаюць“.

Шлагбаум дыскрымінацыі пастаянна апускаецца перад імі. „Дыскрымінацыю мы адчулі з першага дня, як прыехалі ў Аўстралію, — гаворыць Віві Каўтсунадзіс. 21 год назад яна эмігрыравала з Грэцыі. — У школе настаўніца адразу ж строга сказала мне: не размаўляй па-грэчаску, толькі па-англійску!“.

Паводле выказвання „Ньюсуік“, яны сталі тут „мясам для фабрык“. Самая цяжкая праца, часам у небяспечных умовах — вось іх лёс. Не выпадковая і такая статыстыка: рабочыя-імігранты — ахвяры 40 працэнтаў усіх няшчасных выпадкаў на вытворчасці. „Імігранты працуюць увесь дзень на заводзе або фабрыцы, — расказвае італьянец П'етра Сціра. — Заходзяць дадому перакусіць, потым адпраўляюцца на іншую работу. Дадому вяртаюцца толькі за поўнач...“. Каб хоць неяк падтрымаць сям'ю, на любую работу згодны і жанчыны. 60 працэнтаў усіх занятых у аўстралійскай прамысловасці жанчын — імігранты.

### АЎСТРАЛІЙЦЫ — „САПРАЎДНЫЯ“

Іх большасць — 80 працэнтаў усяго насельніцтва. Нашчадкі выхадцаў з Вялікабрытаніі, Ірландыі і ўтварылі англа-аўстралійскую нацыю. З пялёнак ім убіваюць, што англійскае імя і адпаведнае паходжанне даюць ім права займаць кіруючыя пасады, карыстацца ўсімі дабротамі і дыктаваць свае ўмовы нацыянальным меншасцям.

Магчыма, у наступнае дваццаціпяцігоддзе, як запэўнівае Альберт Грасбі, упаўнаважаны Камітэта па міжабшчынных адносінах, у Аўстраліі і будзе створана „сапраўды шматнацыянальнае грамадства“, дзе ні адзін народ не будзе жыць за кошт іншага. Пакуль жа такая аптымістычная заява разбіваецца аб яго другую і, як лічаць, больш рэалістычную: „Аўстралія — расісцкая краіна. Але аўстралійцы не расісты. Яны проста не ведаюць, што значыць не быць імі“.

**Е. К.**

Карэспандэнцыя з Мінска

## Па купалаўскіх месцах

У ліпені група настаўнікаў беларускай мовы з Беласточчыны выехала на настаўніцкія курсы ў сталіцу Беларусі — Мінск. Кіраўніком нашай групы з'яўляецца інспектар бельскіх школ мгр Васіль Нядзведскі. У Мінск мы прыехалі раніцаю 5 ліпеня. Горад сустрэў нас дажджом. Гэты дождж суправаджаў нас цэлы тыдзень, і таму нашыя планы пасляабедніх заняткаў не заўсёды маглі збыцца.

11 ліпеня група нашых настаўнікаў пасля заняткаў наведала літаратурны музей Янкі Купалы. Там мы даведаліся, што музей гэты адкрыты ў маі 1960 г. на месцы, дзе да вайны жыў паэт. Экспанатаў у музеі багата, хоць Мінск быў разбураны дашчэнту. Усе экспанаты з густам паказаны экскурсантам. Там мы бачылі цікавыя карціны Сяргеевіча, а асабліва спадабалася ўсім карціна да верша Купалы „А хто там ідзе“. Сярод экспанатаў знаходзяцца рукапісы, зборнікі, фатаграфіі, партрэты, прадметы асабістага ўжытку, кабінет пісьменніка, узнагароды, дакументы, скульптуры.

Вялікае ўражанне пакінуў на нас партрэт народнага паэта Беларусі, вышыты гаспадыняй з Гродна Н. Аграновіч. Партрэт гэты вышыты шоўкам і падараваны музею. Ён рабіўся жанчынай 5 доўгіх год. Партрэт выйшаў на дзіва, ніхто не сказаў бы, ды і не пазнаць, што вышыты.

Затрымліваліся мы таксама перад скульптурай Янкі Купалы, выкананай Глебавым у Маскве ў 1943 г. з гіпсу. Але не са звычайнага. Гэты гіпс падаравалі скульптару параненыя салдаты, якім здымаўся гіпс з пераломаў. Колькі трэба было любві і пашаны да свайго народнага, каб мастак у такі суровы час аддаваў паклон вялікаму песняру.

Праз некалькі дзён група нашых настаўнікаў-курсантаў наведала месца нараджэння Янкі Купалы. Надвор'е даволі пашанцавала — дажджу амаль не было, дзьмуў толькі халодны вецер, калі мы электрычкай заехалі ў Вязынку.

Цяпер у Вязынцы купалаўскі запаведнік, які займае плошчу каля 13 гектараў. Ад станцыі вядзе бетонная дарожка ўніз. Вакол яе кусты, кветкі. Мы спускаемся да простай сялянскай хаты, у якой у купальскую ноч 1882 г. прыйшоў на свет Янка Дамінікавіч Луцэвіч, які сваё літаратурнае прозвішча прыняў ад даты свайго нараджэння 25 чэрвеня ст.ст., а па-новаму 7 ліпеня.

Маладзенькі праваднік знаёміць нас з дзіцячымі і юнацкімі гадамі паэта, хвалююча чытае вершы пісьменніка. Мы аглядаем хату, у якой змяшчаецца філіял Мінскага літаратурнага музея Я. Купалы, затым дрэвы, пад якімі любіў адпачываць паэт, альтанку, п'ем крыштальна чыстую ваду з крынічкі, любуемся навакольнымі цудоўнымі краявідамі.

Пабыўка на радзіме Я. Купалы пакінула ў нас незабыўнае ўражанне.

**Галена Тапалянская**

# СУСТРЭЧА

(Працяг са стар. 1)

нічаў у заходняй частцы Бельшчыны.

— Па даручэнню камандзіра дэсанта „Дальнія“ Мікалая Хмеляўцова я падбіраў у Беластоку людзей для супрацоўніцтва з партызанамі, збіраў інфармацыю аб немцах і іх агентах, падрыхтоўваў адпаведна забяспечаныя, пэўныя кватэры для прыбываючых на выкананне баявых заданняў у Беластоку таварышаў, — расказвае ён. — Між іншым, завербаваў я інжынера **Ракаўца** і рабочага **Аляксея Сідарчука.** Іменна Аляксей Сідарчук — чалавек вельмі рухлівы і зоркі — дастаўляў нам надта карысную інфармацыю аб знаходжанні часцей нямецкіх войск у Беластоку, руху на чыгуначным вузле і дарогах. Гэтыя інфармацыі кіраўніцтва „Дальніх“ перапраўляла ў камандаванне Савецкай Арміі. Гэта былі вельмі каштоўныя інфармацыі, асабліва пры падрыхтоўцы вызвалення Беластока.

— У нас у вёсцы Чараўкі, што ў гміне Юхновец, перад вайною актыўна дзейнічала ячэйка Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, — прыгадвае **Ілья Купрыянюк.** — З першых жа дзён нямецкай акупацыі былыя КПЗБ-оўцы прыступілі да дзейнасці супроць фашыстаў. Мы ўстанавілі сувязь з партызанскімі атрадамі, што дзейнічалі на Бельшчыне, дастаўлялі ім сабраную пасля фронту і схаваную намі або нашымі знаёмымі зброю і амуніцыю, новую цёплую адзежу, харчы. Хавалі былых салдат і афіцэраў Савецкай Арміі і перапраўлялі іх да партызанаў. Мне, між іншым, праз таварыша Фёдара Савіцкага ўдалося наладзіць сувязь з дэсантам „Дальнія“. Па заданню кіраўніцтва дэсанта я рамантаваў зброю і радыётэхнічнае абсталяванне, збіраў па знаёмых у ваколіцы і дастаўляў боепрыпасы, распаўсюджваў сярод аднавяскоўцаў змест камунікатаў аб палажэнні на франтах, якія перадавала па радыё Савецкае інфармацыйнае бюро...

### ПАД ПОМНІКАМ ГЕРОЯМ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

І вось 27 ліпеня 1977 года ўсе чацвёра ўсклалі кветкі пад помнікам Героям Беласточчыны дзеля ўшанавання памяці дзесяткаў тысяч тых сваіх баявых таварышаў, што ахвяравалі ў імя свабоды гэтай зямлі самы каштоўны скарб — сваё жыццё.

Якія ж лёсы іх былі пасля памятнага 27 ліпеня 1944 года?

Былы старшына Савецкай Арміі І. Сарокін прадаўжаў свой баявы шлях. Удзельнічаў у здабыванні нараўскага ўмацаванага плацдарма каля Астралэнкі, вызваляў Сувалкі, штурмаваў юнкерска-гітлераўскую цвярдыню — горад Кенігсберг. Там і закончыў свой удзел у вайне, вынесшы з яго ў суме чатыры кантузіі, пяць цяжкіх раненняў, узнагароды: „Ордэн Айчыннай вайны“, „Чырвоную Зорку“, „За Адвагу“ і іншыя, а таксама званне капітана. Пасля дэмабілізацыі ён доўгі час працаваў дырэктарам сярэдняй школы каля Бабруйска на Беларусі. Цяпер ён жыве і працуе ў г. Гродна.

Трое нашых землякоў: Ф. Савіцкі, А. Сідарчук і І. Купрыянюк адразу пасля вызвалення Беласточчыны ўключыліся ў непасрэдную барацьбу з рэакцыйным падполлем за ўмацаванне народнай улады — яны працавалі ў органах дзяржаўнай бяспекі. Яны ўсе на заслужанай пенсіі і жывуць у Беластоку.

Цяпер у гэтых чатырох пажылых ужо мужчын твары паараны маршчынамі, валасы абсыпаны серабром сівізны і плечы ссутулены перажытым у жыцці, а тады, у сорак чацвертым, на іх тварах іграў румянец ва ўсю шчаку, кучаравіліся на галовах буйныя шавялюры і былі яны стройныя, як таполі...

**Мікалай Гайдук**

Фота З. Лянкевіча



*Ігнацій Сарокін, Фёдар Савіцкі, Аляксей Сідарчук і Ілья Купрыянюк каля помніка Героям Беласточчыны.*

## З беларускага друку

### СОНЕЧНЫ КАМЕНЬ ПАЛЕССЯ

Кавалак бурштыну велічынёй з гусінае яйцо выкінуў на бераг земснарад, які паглыбляе раку Мухавец недалёка ад вёскі Булькава ў Жабінкаўскім раёне. Знаходка мае асаблівую навуковую каштоўнасць. Кожны кавалачак сонечнага каменя дапамагае геолагам больш дакладна аднавіць малюнак фарміравання асадкавых парод, нясе інфармацыю аб клімаце далёкіх часоў. Вывучаючы пароды, якія захоўвалі бурштын, можна будзе ўстанавіць, прынесены ён здалёку ці нарадзіўся ў нетрах Беларусі. За апошні час гэта ўжо не першая знаходка брэсцкіх рачнікоў. Крыху раней два буйныя кавалкі бурштыну былі знойдзены пры здабычы пяску каля вёскі Гузні Брэсцкага раёна.

### У ЗААПАРКУ — ПАПАЎНЕННЕ

Незвычайных пасажыраў — амазонскіх папугаяў, венцаносных галубоў — даставіў у Гродна маскоўскі экспрэс. Ганарлівыя птушкі „пасяліліся“ ў мясцовым заапарку.

У ім прадстаўлена каля 250 відаў жывёл і птушак з усіх кантынентаў. Вялікую цікавасць выклікаюць у наведвальнікаў афрыканскі слон, тыгры, ільвы, леапарды, чорныя пантэры, гімалайскі мядзведзь, гаспадар Белавежскай пушчы — зубр...

Спецыялісты адводзяць калекцыі заапарка трэцяе месца ў краіне. Тут штогод бывае да чвэрці мільёна чалавек.

### ВУЧЭБНЫ КЛАС У ДАРОЗЕ

Перасовачны вучэбны клас Мінскага трактарнага завода, абсталяваны на двух аўтамашынах, накіраваўся ў дарогу. Яго маршрут: Фінляндыя, Швецыя, ГДР і Іспанія. На працягу чатырох месяцаў спецыялісты прадпрыемства будуць аказваць фірмам, якія гандлююць трактарамі „Беларусь“, кваліфікаваную тэхнічную дапамогу ў абслугоўванні і эксплуатацыі машын.

У вучэбным класе ўстаноўлены разразныя вузлы і агрэгаты трактара МТЗ-82, ёсць запчасткі, інструмент, наглядныя дапаможнікі, дыягнастычнае абсталяванне.




**Piątek 12 VIII** — 8.45 Film fab. 16.10 Koncert. 18.05 Spiewa W. Sztokołow. 19.00 Nasza biografia. 20.30 Pr. estrad. 21.45 Olimpiada — 80.

**Sobota 13 VIII** — 13.10 Film fab. 14.40 w świecie zwierząt. 17.15 P. nożna. Finał Pucharu ZSRR. Torpedo — Dynamo. 19.15 Koncert. 20.30 Film fab. 22.15 Pr. estrad.

**Niedziela 14 VIII** — 12.30 Film fab. 16.40 Film anim. 17.15 Klub film. 18.25 Koncert. 21.15 Siatkówka. Międzynar. turniej.




**Białowieża** Mój kochany mąż i ja — NRD 16—17. Słodko i gorzko — buł. 18—19. Człowiek, który przestał palić — szwedz. 20—21.

**Bielsk Podlaski** Odpowiedź zna tylko wiatr — RFN 16—17. Złotodajna rzeczka — radz. 18—19. Od świtu do świtu — radz. 20—21.

**Czeremcha** Kardiogram — pol. 16—17. Ponieważ się kochają — rum. 20—21.

**Czyże** Trędowata — pol. Inna — pol. 17—21.

**Dubicze Cerkiewne** Niewolnica miłości — radz. Zorro — wł-fr. 17—21.

**Hajnówka** Charley Varrick — USA 15. Ptaki ptakom — pol. 16—17. Strach nad miastem — fr. 18—19. Sprawdzam siebie — węg. 20—21.

**Kleszczele** Dzielny szeryf Lucky Luke — fr.-belg. 16—17. Cudze listy — radz. 18—19. Czerwone ciernie — pol. 20—21.

**Michałowo** Premia — radz. 16—17. Mój brat ma fajnego brata — czes. 18—19. Kto szuka złotego dna — czes. 20—21.

**Mielnik** Spotkanie — ang. 17. Ostatni skok gangu Olsena — duń. 20—21.

**Milejczyce** Żółtodziób — radz. 16—18. Miasto w czerni — węg. Przerwana pieśń — buł. 19—21.

**Narew** Ocalić miasto — pol. Obrazki z życia — pol. 17—21.

**Narewka** Konik Garbusek — radz. Maria — szwedz. 17—21.

**Nurzec** Michaś przywołuje świat do porządku — RFN 16—17. Zaginęła dziewczyna — czes. 18—19. Anno Domini 1573 — jug. 20—21.

**Orla** Obecność — buł. Zindy chłopiec z bagien — mek. 17—21.

**Rajsk** Dom — jug. Piosenka za koronę — czes. 17—21.

B.Z.Graf. Zam. 1902 B-4

## Каралеўства — за альбом аб Белавежы!

Выданняў аб Белавежскай пушчы паявілася дагэтуль вельмі многа. Былі публікацыі менш уданыя, былі і зусім добрыя. Пісалі іх розныя людзі. Дакладна звязаныя з пушчай і зусім выпадковыя. Але што прапануецца экскурсантам ці турыстам у бягучым сезоне?

Што можа купіць чалавек, чаго не пасаромеўся б мець на паліцы ў сваёй хатняй бібліятэцы?.. Абзор, які я правёў у белавежскіх кіёсках, павільёнах з памяткамі, кнігарнях і ўвогуле — месцах, дзе можна нейкае выданне атрымаць, прыводзіць невясёлыя думкі. Няма ў продажы ніводнага скромнага альбомчыка аб нашай жамчужыне. Ёсць толькі брашуры, якім па зместу, за выключэннем лаканічнасці, нічога нельга закінуць, але ўжо іх фармат не заахвочвае да пакупкі. Калі паставіць такую кніжачку на паліцы, яна сярод іншых выданняў не будзе і відаць. Зразумела, што справа тут не толькі ў тым, як купленая кніжка будзе выглядаць на кніжнай паліцы. Турыст хоча купіць перш-наперш публікацыю, дзе мог бы знайсці шырокія інфармацыі аб флоры, фауне і гісторыі пушчы. Усё гэта павінна быць добра праілюстрыравана, пажадана каляровымі здымкамі. Падыходзілі ўжо да гэтага ў апошніх гадах такія выданні, як „Нацыянальны парк у Белавежскай пушчы“ пад рэдакцыяй Я. Б. Фалінскага (1968 г.), „У нетрах Белавежскай пушчы“ Э. Венцко (1972 г.) і другая кніжка Э. Венцко з 1972 г. — „Белавежская пушча“, а нават аднаўленае і пашыранае С. Гранічным выданне „Белавежскай пушчы“ Я. Е. Карпінскага (1972 г.), хаця ва ўсіх названых публікацыях былі змешчаны чорна-белыя здымкі. На жаль, ніводнае з гэтых кніжак нідзе сёння не купіш. Іх тыражы проста ўжо разыйшліся.




*Вокладка выдадзенай у мінулым годзе ў Вялікабрытаніі кніжкі, у якой адзін з раздзелаў прысвечаны Белавежскай пушчы. На вокладцы здымак з Белавежскага нацыянальнага парка — гніючая калода дрэва, параслая апенькамі.*

Што ж можна ўвогуле купіць? З агульных даведнікаў (надта міні): „Белавежу“ А. У. Сакалоўскага (1976 г.) — публікацыя з серыі КАВоўскай, з пару каляровымі здымкамі, і „Тры дні ў Белавежскай пушчы“ Я. Б. Фалінскага, Ч. Аколува і Е. Л. Альшэўскага (1970 г.). ПТТК і падлеглыя яму пункты продажу прапануюць турыстам яшчэ трэці даведнік „Белавежскі нацыянальны парк“ Я. Е. Карпінскага, выдадзены... у 1961 г. Бедны будзе той, хто захоча з такім даведнікам наведваць Белавежу, хіба што ў пару гляне на год выдання. Даведнік гэты павінен хутчэй за ўсё апынуцца ў антыкварыяце.

З іншых, ужо бадай выключна аднатэмных брашур можна дастаць толькі „Прыродазнаўчыя экскурсіі па Белавежскай пушчы“ Х. Фалінскай (1970 г.) — кніжка прызначана для настаўнікаў, „Грыбы і іх збіранне ў Белавежскай пушчы“ А. Нэспяка (1970 г.) і „Зубра ў Белавежскай пушчы“ З. Красінскага і Я. Рачынскага (1970 г.). У адным з пунктаў продажу бачыў я яшчэ „Паляўніцтва ў Белавежскай пушчы“ Л. Мілкоўскага (1970 г.), але гэтая пазіцыя напэўна на днях зусім разыйдзецца, так як і „Тры дні ў Белавежскай пушчы“. Найгорш, што тое самае чакае і турысцкую карту Белавежскай пушчы. Апошнія экземпляры прадае ўжо адна кнігарня. Так што з IV выданнем няма што далей адцягваць. Яно патрэбнае ўжо цяпер, у бягучым сезоне.

Дрэнна прадстаўляецца справа з публікацыямі аб пушчы на замежных мовах. Справу ратуюць англійская, нямецкая і руская версіі брашуры „Белавежа“ праф. А. У. Сакалоўскага. Але яны надоўга справу не вырашаць. Замежны турыст, так як і краёвы, дамагаецца абшырнага альбомнага выдання. Існуючы пралом у вялікай ступені магла б запоўніць кніжка Э. Венцко „In the Białowieża Forest“, выдадзеная ў 1974 г. Што ж, калі яна ў продажы ўвогуле не паявілася. Пазіцый на замежных мовах аб Белавежскай пушчы выйшла больш у замежных дзяржавах, чым такіх жа ў Польшчы, хаця гэта мы павінны расслаўляць пушчу ў іншых дзяржавах. У ГДР выйшаў дасканалы альбом аб зубры, у Беларусі вельмі ўдалы альбом аб цэлай пушчы А. і М. Ананіных (з тэкстам на беларускай, рускай і англійскай мовах). Нават французы надрукавалі альбом аб нашых лясных коніках тыпу тарпан, а ў Вялікабрытаніі выйшла ў мінулым годзе кніжка, у якой адзін раздзел прысвечаны пушчы. Зрэшты, што тут здзіўляцца недахопам у нас публікацый на замежных мовах, калі і на польскай мове зараз нічога добрага не дастанеш!

Вось, як на злосць, выйшлі непаразуменні з друкам даўно сігналізаванага альбома „Зялёныя дубровы, чорныя боры Белавежы“ Я. Б. Фалінскага і Я. Герэзняка. Выдавецтва хацела зрабіць аўтарам „сюрпрыз“ і надрукаваць кніжку на паперы горшай якасці, нічога дзіўнага, што тыя не згадзіліся на гэта і лічаць за лепшае пачакаць, пакуль знойдзецца адпаведная папера, каб потым не саромецца сваёй працы.

Каб ужо не кончыць у зусім песімістычным настроі, падам, што прадстаўнікі беларускай часткі пушчы звярнуліся нядаўна да сяброў з Белавежы з прапановай выдання супольнай савецка-польскай манаграфіі Белавежскай пушчы. Прапанова была з задавальненнем прынята.

Як будзе з выданнямі аб пушчы ў наступным турысцкім сезоне, пастараюся напісаць праз год.

**Пётр Байко**
Фота аўтара

## Адзін з найлепшых

Год часу таму назад Мейска-гмінны цэнтр культуры (М-ГОК) у Супраслі перасяліўся са стражацкай рамізы ў прасторны аднапавярховы будынак. Ёсць тут цяпер вялікая глядзельная зала са сцэнай, клуб прэсы і кніжкі „Рух“, бібліятэка. Наведвальнікаў М-ГОК-у чакаюць тут два тэлевізары, у тым ліку адзін каляровы, дванаццаць розных газет і часопісаў. Пра клуб „Рух“ клапоціцца Рэгіна Радзіваноўская. Тут вельмі прыемна і ўтульна, бо чысціня, парадак, свежыя кветкі на століках. Кіраўнічка дбае, каб не забракла ўсялякіх тавараў, напіткаў, прэсы і кніжак. У клубе вісяць заўсёды актуальныя насценгазеты, густоўныя дэкарацыі ды выстаўкі кніжных навінак, якія паступаюць у мясцовую гмінную бібліятэку. Р. Радзіваноўская прадае тавараў больш як на трыццаць тысяч злотых у месяц (варта дадаць, што ў Супраслі наведвальнікі клуба ахвотна п'юць каву і чай). Прыходзяць сюды таксама турысты, якія прыязджаюць у Супрасль на адпачынак і каб пазнаёміцца з тутэйшымі помнікамі старадаўнасці. Таму летам разыходзіцца тавараў яшчэ больш.

У М-ГОК-у актыўна працуе гурток жывапісцаў, які з вялікім поспехам вядзе выпускніца супрасльскага пластычнага ліцэя Зофія Сянкевіч. Члены гуртка жывапісцаў не толькі вучацца жывапісу, але і як выткаць дэкарацыйныя габелены або як зрабіць дэкарацыйныя талеркі на сцены і іншыя прадметы. У мінулым годзе і сёлета з дапамогай гісторыка мастацтва мгр Юрыя Шчуцкага з Ваяводскага дома культуры М-ГОК у Супраслі арганізаваў семінар для юных жывапісцаў-аматараў, а таксама супольна з мясцовым пластычным ліцэем і пад кіраўніцтвам дырэктара таго ж ліцэя мгр Войцеха Залэнскага — пленер для жывапісцаў, мастакоў і разьбяроў з розных мясцін нашай краіны і нават з Венгрыі. Семінар і пленер карысталіся вялікім зацікаўленнем мясцовых улад, жыхароў і турыстаў. Удзельнічала ў іх многа людзей. Пасля іх у М-ГОК-у арганізаваліся выстаўкі найлепшых карцін, замалёвак і рэзьбаў. Шматлікія з гэтых работ аўтары іх падарылі М-ГОК-у і гэтым самым папоўнілі яго і так даволі багатыя зборы, якія выкарыстоўваюцца для чарговых выставак.

Дзейнічае ў М-ГОК-у папулярны ў сваім асяроддзі сяміасабовы вакальна-музычны калектыў пад кіраўніцтвам Станіслава Кундзіча. У ім займаюцца апрача здольных музыкантаў дзве таленавітыя салісткі: Альжбета Якель (вядомая як найлепшы сёлетні выканаўца рускай песні на конкурсе, арганізаваным на Беласточчыне) і Івона Кулявік. Гэты калектыў вельмі добра



*Кіраўнічка клуба прэсы і кніжкі „Рух“ Рэгіна Радзіваноўская за працай.*

паказаў сябе, выступаючы на першамайскай акадэміі ў Супраслі.

Другая інструктарша Данута Лукашэвіч арганізуе дыскатэкі, даход з якіх прызначаецца на фонд пабудовы Цэнтра здароўя дзіцяці, канцэрты шырокавядомых у краіне салістаў ды музычных калектываў (тут нядаўна гасцяваў квінтэт акардэаністаў з Варшавы), выстаўкі з розных галін сучаснага жыцця. Супольна з даволі працалюбівай тутэйшай моладдзю яна арганізуе конкурсы ведаў аб Супрасльскай гміне і самой Супраслі, вечарыны, прысвечаныя святкаванню знамянальных гадавін, сустрэчы з людзьмі цікавых прафесій і шмат іншых культурна-асветных мерапрыемстваў.

Варта адзначыць, што іменна дзякуючы штодзённай плённай працы Мейска-гмінны цэнтр культуры ў Супраслі лічыцца адным з найлепшых у Беластоцкім ваяводстве.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*У зале супрасльскага М-ГОК-у, у якім арганізавана выстаўка экспанатаў народнай вышыўкі.*

Гісторыя моды

## Хто прыдумаў джынсы?

Нямногія тавары зрабілі такую ашаламляльную „кар'еру“ — але факт застаецца фактам: грубыя, прымітыўныя штаны „джынсы“ носяць цяпер ва ўсім свеце. Іх носяць бедныя і мільянеры, маладыя і старыя, мужчыны і жанчыны — зімой і летам.

Гэтым фенаменам ужо зацікавіліся сацыёлагі і філосафы. Як звычайна бывае з цяжкавытлумачальнай з'явай, выказваюцца розныя думкі.

Лічаць, што джынсы — гэта форма пратэсту, уцёкі ад падзелу людзей на класы, пагоня за прастатой і г.д.

А, магчыма, яны проста — танныя і зручныя. Так, напэўна.

Вынаходнікам джынсаў, калі яго можна так назваць, быў немец па паходжанню Леві Штраус, які ў другой палавіне мінулага стагоддзя паехаў у Каліфорнію, дзе пачаў прадаваць золаташукальнікам палаткі і абсталяванне.

Аднойчы нейкі старацель паскардзіўся яму, што нідзе нельга купіць танныя і трывалыя штаны.

Штраусу прыйшла ў галаву думка пашыць з рэшткаў блакітнай парусіны менавіта такія штаны.

Старацель быў уражаны і выхваляўся перад сябрамі. Штраус арганізаваў масавы пашыў такіх штаноў.

Сёння фірма Леві Штрауса выпускае самую вялікую колькасць джынсаў у свеце. Яе канкурэнтамі з'яўляюцца кампаніі Блю Белз („Рэнглер“) і Уайамісінг („Лі“).

Адкуль жа назва „джынсы“? У Каліфорніі часта бачылі італьянскіх маракоў з Генуі, якіх старацелі на сваім жаргоне называлі „джыны“. Гэтым маракам спадабалася „вынаходніцтва“ Штрауса, і яны вельмі ахвотна куплялі штаны з парусіны. Адсюль і назва.

Да канца 40-х гадоў джынсы былі вядомы толькі ў ЗША, а потым пачалі пранікаць у Еўропу і цяпер, можна сказаць, заваявалі ўвесь свет.

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

# Міхась Зарэцкі

Міхась Зарэцкі чалавек ужо не малады. Ён з 1901 года нараджэння. Жыве ад дзяцінства ў Мастаўлянах.

Чалавек гэты нязвыкла здольны. На што добра паглядзіць і калі захоча, усё ўмее зрабіць. Асабліва вялікія майстэрскія здольнасці праявіў ён у будаўніцтве. Будаваў ён вельмі многа гаспадарчых будынкаў, дамоў драўляных і мураваных. Як ніхто ў ваколіцы, славіўся ён уменнем перасоўваць будынкі на іншае месца. Больш 20 будынкам змяніў месца „сталага побыту“, з чаго асабліва былі задаволены сяляне, якія з ходам часу хацелі больш талкова размясціць будынкі на сваёй сялібе.

Калі ў 1926 годзе будаваўся ў вёсцы млын, уласнік яго высока цаніў Міхася Зарэцкага як майстра на ўсе рукі, бо ён усё рабіў вельмі дакладна і салідна, пачынаючы ад сталярскіх работ і канчаючы на ліквідацыі ўсіх недахопаў у працы млына, уключна з выліваннем каменняў, якія мелюць збожжа на муку.

Міхася Зарэцкага запрашалі да рамонту млыноў многія. Напрыклад, у Рудніка ў Крынках Міхась Зарэцкі быў галоўным майстрам. У млыне вельмі многа залежыць ад добра ўстаўленых каменняў. А калі Міхась Зарэцкі выльe гэтыя камені і сам іх уставіць, млын меле дасканала.

Кожны перыяд часу выклікаў на вёсцы нейкія новыя патрэбы сялян. І Міхась Зарэцкі быў заўсёды гатовы на ўсё. Калі на вёсцы сяляне сталі ўсё менш пакрываць свае будынкі саломаю, адкрыў ён прадукцыю даховак. І ў гэтай дзялянцы быў ён наватарам. Усюды выраблялася тады дахоўка аднафальцовая. І таму што яна была аднафальцовая, цяжка было пакрываць ёю дах. А Міхась Зарэцкі перарабіў станок дахаўчаркі і штрыхульцы, а таксама іншыя часткі і пачаў рабіць дахоўку двухфальцовую. Заказаў на яе меў столькі, што не паспяваў спраўляцца.

Пасля вызвалення нашай краіны ад нямецкіх захопнікаў Міхась Зарэцкі заняўся іншай прадукцыяй, пачаў рабіць млынкі-сьрутоўнікі. Выпрадукаваў іх больш як 80, і ўсе яны працуюць на высокім тэхнічным узроўні.



У 1971 годзе ў Міхася Зарэцкага памерла жонка. Хацеў ён паставіць ёй помнік, але прыгажэйшы ад тых, якія былі на іх могілках. І вырашыў сваімі рукамі зрабіць яго. Пачаў рыхтаваць адпаведныя формы і збіраць адпаведныя часткі да шліферкі. У Беластоку на зломе знайшоў рамку, у слясарні зрабіў паводле свайго праекту патрэбныя часткі і, купіўшы рухавік, зладзіў машынку. Так пачаў рабіць першы помнік. Вышаў ён даволі прыгожы. Адразу пасыпаліся заказы сялян. І вось да сённяшняга дня Міхась Зарэцкі займаецца гэтым рамяством, якому ў нікога не вучыўся.

Цяпер дапамагае яму ў працы зяць — Сяргей Ляўкоўскі, муж яго дачкі Леанілы.

Міхась Зарэцкі кемлівы да многіх іншых работ. Можна было б гаварыць аб многіх яго пачынаннях і абсталяваннях, якія ў вясковым жыцці адыгрываюць істотную ролю. Можна было б шмат сказаць аб тым, што ён першы ў вёсцы абсталяваў крайзэгу на пілаванне доўгага дрэва на дошкі, што першы зрабіў сабе млынок на аднафазавы рухавік, што ўсё на сялібе іх зроблена яго рукамі (стадола, хата, іншыя будынкі).

І калі сабе ўявіш, што гэты чалавек скончыў толькі пяць класаў пачатковай школы, дзіву даешся і разумееш, што гэта селянін з вялікім тэхнічным талентам. Вось каб яму вышэйшую адукацыю, напэўна быў бы выдатным спецыялістам. Але, на жаль, калі ён нарадзіўся, былі іншыя часы, тады не мог марыць ён нават аб заканчэнні сярэдняй школы.

Тэкст і фота Міхася Хмялеўскага

## ХТО І СКРЫВІЎ ?

У 23/1110 нумары нашага тыднёвіка ад 5 чэрвеня бягучага года ў рубрыцы „Кажуць, што...“ была змешчана заметка крытычнага характару адносна піцця піва пры кіёску, што знаходзіцца ля стаянкі ПКС-у ў Гайнаўцы. У сувязі з бескультур'ем, якое пачало тут праяўляцца — займанне прызначаных пасажырам лавачак, засмечванне навакolля, гайнаўскія ГС-аўскія ўлады, якім падлягае гэты кіёск, выдалі загад, катэгарычна забараняючы піццё піва пры кіёску, і, згодна з гэтым, вывесілі аб'яву, якая паказвала мяжу важнасці гэтай забароны. З гэтага вынікала, што калі не забаронена піць піва, а толькі ўведзена пяцідзесяціметровая зона, дык чаму ж нехта мае не купіць некалькі бутэлек піва і не адыйсці метраў пяцьдзесят пяць ды не распачаць свайго рытуалу? Ці там забаронена? А капсулы ў кішэнь жа складаць не будзе, а асабліва той, каму яны непатрэбныя...

У адказ на заметку ГС піша: „...Інтэнцыя зместу гэтай аб'явы была скрыўлена аўтарам... Здагадка, што за межамі гэтай зоны можна піць піва і раскідваць капсулы — гэта прыватная справа аўтара...“. Што тут і кім скрыўлена: заметка, ці адказ? Аб'ява ж выразна гаворыць аб забароне піцця ў пяцідзесяціметровай зоне. Дык згодна з лагічным разумаваннем, прыхільнікі піўнога наркаманства, несумненна, перанясуць свой прыпынак за мяжу забароненай зоны. Што за розніца, ці піць пры кіёску па адным ці браць штук дзесяць і адыходзіць далей? І ці яны будуць задумоўвацца, што ГС меў на думцы, уводзячы забаронную зону? Загаду ж яны не нарушаюць!

Несумненна, піццё піва — гэта прыватная справа п'ючага і рэцэпт на гэта знайсці цяжка. Залежыць толькі і выключна ад асабістай культуры. Але ці ж культура — рэч не набытая? Ці ж нельга ёй навучыцца? Толькі не такім спосабам! Гэта так, як бы мокнуць на дажджы, трымаючы ў руцэ парасон. Кіёск — гэта ж не адзінае месца, дзе можна выпіць піва. Не толькі ж тут яго прадаюць! І навошта тады сілаю вучыць культуры, калі не ліквідаваны поўнасцю перашкоды? Ці ж не лепш, замест ствараць нейкія зоны, вогуле ліквідаваць продаж? Калі не ўмее ніхто ўшанаваць агульныя правілы парадку, дык ліквідуйма прычыну, якая гэта паглыбляе. Калі ласка — рэстаран, кафэ.

Што ў кіёску прадаюць і напіткі безалкагольныя, аб гэтым ведаю! Што ёсць магчымасць піцця на месцы, таксама даведваюся не ўпершыню! Але што ўведзена правіла звароту капсулы разам з бутэлькай — рэч новая. Калі нехта п'е на месцы, дык навошта яму закрытая бутэлька, а калі прадаўшчыца адкрывае, дык напэўна не дае капсулы на тое толькі, каб атрымаць яе назад. А калі нехта купляе бутэльку закрытую, дык не на тое, каб, адышоўшы некалькі крокаў ад кіёска, пачаць яе адкрываць! Гэта ж не такая прыцягальная дзейнасць! І ў гэтым выпадку засмечванне не пагражае.

А наступнае — гэта тое, што напэўна п'ючыя безалкагольныя напіткі не займаюць месца пасажыраў, бо гэта ж пераважна яны самі. Пад кіёскам таксама гадзінамі стаяць не будуць. Ну, бо колькі ж бутэлек можна выпіць — адну, дзве! Не алкаголь, міленькія, дык многа не вып'еш! — гаворыць старая пагаворка.

І што ж тут скрыўленае? (ша)

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

# Футбалісты з Супраслі

У канцы ліпеня мужчынская футбольная каманда з Супраслі сыграла матчы на сваёй спартыўнай пляцоўцы з такімі ж камандамі з Гарадка і Тыкаціна. І ўсе выйграла. У чарговых спаборніцтвах выступіць яна ў Лапах, дзе сустрэнецца ўжо з тымі камандамі, якія, як і яна, знаходзяцца на паўдарозе розыгрышаў на кубак Галоўнага праўлення ЗСМП. Супрасльская каманда футбалістаў выступіла ў складзе: Януш Вільчэўскі (варатар), Юры Зіневіч, Ян Скшыпэк, Лех Суражынскі, Лех Віснеўскі, Юры Пуль, Андрэй Місевіч (капітан каманды), Юры Алізаровіч, Веслаў Санюкевіч, Станіслаў Мельдзіч, Збігнеў Малец (запасны з лаўкі рэзервовых) і Юрка Гудалеўскі. Усе яны ігралі зладжана і з немалым талентам.

Варта дадаць і тое, што пастаянныя трэніроўкі з маладымі футбалістамі праводзяць Януш Квасібoрскі (трэнер) і Юры Гудалеўскі (інструктар). Вельмі важна таксама тое, што рабочай трэніроўкай і поспехамі таленавітых футбалістаў асабліва зацікаўлены начальнік гміны, старшыня мясцовага мэблевага кааператыва і дырэктар гміннай зборнай школы. Спамянутыя прадстаўнікі адміністрацыйных, асветных і прадукцыйных устаноў і прадпрыемстваў рэдка калі адмаўляюць, а часцей за ўсё дапамагаюць юным футбалістам. Атрымліваюць яны ад улад і матэрыяльную дапамогу і забяспечваюцца сродкамі транспарту.

(гай)

Фота Я. Цялушэцкага



(Працяг са стар. 1)

# БУДЫ

**Пагарэліску,** закрасавалі травы на лугах у **Альховай, Будзіску, Краўзаве.** Людзі не шкадавалі сваёй працы і для супольнага дабра, самі збудавалі святліцу, выбрукавалі вуліцу, памагалі пры электрыфікацыі. Сённяшнія Буды — гэта тыповая сучасная вёска з тэлефонам і тэлевізарамі, з крамай і клубам селяніна, з бібліятэчным пунктам, у якім, як кажа бібліятэкар і клубовая **Анна Валадкевіч,** заўсёды для выбару чытачоў знаходзіцца сама меней 150 тамоў. Тут чытачы, так як і ва ўсёй краіне, захапляюцца мемуарнай ваеннай літаратурай, гістарычнымі раманамі і... крыміналамі.

З гэтага сяла пры народнай уладзе выйшлі настаўніцы **Г. Вішнеўская** і **Л. Савіцкая,** лекар **Я. Вішнеўская,** інжынер **П. Шумарскі** і шэраг іншых спецыялістаў з розных дзялянак нашай гаспадаркі і культуры. І цяперашнія Буды хвалююць усе тыя справы, што хвалююць кожнага жыхара нашай краіны, але ўсё ж...

Так. Усё ж сяло захавала свой пушчанскі каларыт. У ім аж пяць пасекаў, у якіх ёсць і выдаўбаныя пешняй у камлі старадаўнім спосабам вуллі. Гаворка не-не ды і зыходзіць на тое, што ва ўрочышчы **Стойлечко** бадзяецца вельмі небяспечны стары самотнік-зубр, на **Кабаніцкай Дарозе** нядаўна бачылі змяю даўжынёй у сажань, а паміж **Замчыскам** і **Казацкай Аборай** калісьці, відаць, была шырокая брукаваная дарога, бо яшчэ і цяпер камяні тырчаць. І ўсе будняне памятаюць пра тое, што ў часе **Студзеньскага** паўстання адзін з паўстанцкіх атрадаў, уцякаючы ад казацкай пагоні, кінуў у багну над рэчкаю Лутоўняй аграмадны сундук, поўны залатых манет, і ніхто дагэтуль яго не знайшоў...

**Мікалай Гайдук**

Фота аўтара

## Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### МАКСІМ ГАРЭЦКІ — ЧАСТКА XXXIII

**П'еса „Антон“. Карціна вясковага жыцця.** „Антон“ па сутнасці не належыць да грамадскіх твораў. Нягледзячы на гэта, паказаны ў ім постаці паноў, іх прыслужнікаў і шырокая галерэя сялян.

У п'есе некалькі разоў аўтар вяртаецца да постаці леснікоў, якія верна бароняць панскі лес. Усе леснікі выводзяцца з сялян і ад гэтых сялян сцерагуць панскую маёмасць. Пісьменнік паказвае леснікоў найчасцей пры гарэлцы. Там выяўляюцца іх погляды, прынцыпы, „філасофія“. Найцікавей з леснікоў прадстаўлены Аўтух.

З'яўляецца ён бацькам Антона, селянінам і пры гэтым на працягу многіх гадоў спаўняе функцыю панскага лесніка. Пісьменнік паказвае Аўтуха ў яго кантактах з памешчыцай, з іншымі леснікамі, з сялянамі, з уласнай сям'ёй, з мясцовым карчмаром і гандляром. Па сутнасці Аўтух ад пачатку да канца прадстаўлены як постаць рашуча адмоўная. Аўтар прыпісвае яму варожыя адносіны да сялян, вернападданчы сервілізм да паноў, непрыхільнасць да сына і нявесткі. Аўтух гэта чалавек, які поўнасцю здрадзіў сялянскім інтарэсам. Галоўная ідэя яго жыцця заключаецца ў тым, каб як найлепш дагадзіць памешчыцы. Падобную пазіцыю займаюць і іншыя леснікі. У сувязі з гэтым даходзіць да частых канфліктаў паміж імі і сялянамі, жыхары вёскі няраз кідаюць ім у вочы горкія і злосныя абвінавачванні.

Постаці леснікоў у п'есе — гэта ў нейкай ступені сімвалы грамадскага зла. Пры іх дапамозе Гарэцкі паказвае, як адшчапенцы ад сялянскага кораня памагаюць памешчыкам эксплуатаваць і крыўдзіць гэты клас.

З постаццю Аўтуха пісьменнік спалучае поўны маральны расклад. Штодзённае п'янства, скандалы, бязглузная балбатня. Усё гэта сведчыць, што маем дачыненне з руінай чалавека.

Класавую карціну п'есы адлюстроўваюць таксама постаці шахцёраў. Адзін з іх рэзка выступае супраць Аўтуха, абвінавачваючы яго за верную службу панам. На жаль, пісьменнік не высвятляе, чым займаюцца шахцёры, і з гэтай прычыны іх постаці не маюць арганічнай сувязі з сялянскім асяроддзем.

У п'есе пісьменнік выводзіць на сцэну жабракоў-старцаў. Наведваюць яны хату Антона і прапануюць, каб яго сын пайшоў з імі як праважаты. Старцы вядуць доўгую, але не зусім ясную гутарку аб сабе і аб свеце. У іх выказваннях, зрэшты, як і ў выказваннях многіх іншых герояў, выступае нешта туманнае, адарванае, сюррэалістычнае.

З сацыяльным фонам п'есы звязаны таксама сустрэчы мясцовай моладзі. Сярод маладых сустракаюцца асобы з рознымі, часта супрацьстаўнымі поглядамі і ідэаламі. Досыць цікава паказаны тут гульні мясцовай моладзі. І якраз тут праяўляецца этнаграфічна-фальклорная праслойка твора. Але тут, як і ў іншых праблемах, паказаных у творы, не ўсё заўсёды паслядоўнае і лагічнае.

І размовы і здарэнні няраз рвуцца, блытаюцца, заходзяць у тупік. Часта гутаркі герояў нагадваюць дыялаг глухіх. Кожны выказвае толькі свае праўды, не хочучы пачуць праўды іншых. Нягледзячы на ўсе гэтыя недахопы, выступае ў п'есе даволі выразная карціна сацыяльнага побыту вёскі. У гэтай карціне няма нічога прывабнага, наадварот, дамінуюць у ёй фарбы і здарэнні, якія дзейнічаюць на чытача дэструктыўна.



# ЛЕС І СПАКОЙ

Многа ёсць цудоўных, але малавядомых мясцін на нашай Беластоцкай зямлі. Вось хаця б за Міхаловам, а дакладней — за вёскай Новая Воля, па дарозе ў вёску Сушча. У Новай Волі трэба адарвацца ад шашы і паехаць жвіроўкай. Неўзабаве распачнецца тут дрымучы, пераважна сасновы стары лес, сярод якога жывапісна раскінуліся на палянах адзінокія сялібы мясцовых сялян. У іх заўжды можна купіць (а найчасцей атрымаць як гасцінец) кубак малака, яблыкі і розную агародніну.

Вакол першабытны спакой і чыстае жывічнае паветра, насычанае пахам лясных кветак і спевам птушак.

У гаспадароў, якія тут жывуць, можна спыніцца на даўжэйшую пабыўку. Карысць будзе падвойная: поўны спакой і ашчаднасць на аплаце за дарагія турыстычныя гасцініцы, а сялянам таксама залатоўкі не будуць лішнімі.

Непадалёку ад гэтага месца цячэ рака Нараў, дзе можна пакупацца. Толькі неабходна памятаць аб тым, што Нараў — нават тут, у сваім верхнім цячэнні — рака небяспечная і здрадлівая. Здарылася ў Бандарах, што адзін хлопец з разгону скочыў у яе і ўжо не выплыў. Выцягнулі яго з вады зусім бездапаможнага. У бальніцы ён памер.

Затое вада ў Нарве тут амаль крынічна чыстая. Да прамысловых цэнтраў далёка, а малачарня ў Міхалове яшчэ не паспела ў гэтым месцы атруціць ваду.

За вёскай Сушчай ля мосту на Нарве ёсць месца, дзе можна пазагараць. Туды прыходзяць маладыя людзі адпачыць і пакупацца з усіх навакольных вёсак, а таксама ўсё часцей можна тут сустрэць аўтобусы з турыстамі.

**(вр)**

Фота аўтара

## ФАЛЬКЛОР

ЛЮБОЎНАЯ




*Е у полі езерэчко,*
*там плывало вядзерэчко:*
*сасновы клепкі, дубова донца —*
*не цурайса ж ты, маё сэрца,*
*сасновы клепкі, дубова донца —*
*не цурайса ж ты, маё сэрца.*
*А там плывало іх двое*
*троі сутак над вадою —*
*выйдзі, дзеўчына, выйдзі, кохана,*
*пагаворымо з табою,*
*выйдзі, дзеўчына, выйдзі, кохана,*
*пагаворымо з табою.*
*— Я бы рада выхадзіці*
*з табой рэчы гаварыці —*
*лежыць мой мілы на правай ручцы*
*да й баюся разбудзіці,*
*лежыць мой мілы на правай ручцы*
*да й баюся разбудзіці.*
*Казак коніка седлае,*
*яму рэчы вымаўляе:*
*— Рыссю, мой коню, к чыстаму полю,*
*прама к ціхаму дунаю,*
*рыссю, мой коню, к чыстаму полю,*
*прама к ціхаму дунаю.*
*А ў дунаю падумаю,*
*падумаю, пагадаю:*
*чы мне ўбіцца, чы ўтапіцца,*
*чы дадому вараціцца?*
*Чы мне ўбіцца, чы ўтапіцца,*
*чы дадому вараціцца?*
*Як дадому я вернуся,*
*да каго я прыгарнуся?*
*Жонкі ні маю, дзеўка ні прымае —*
*пайду з гора да й утаплюся,*
*жонкі ні маю, дзеўка ні прымае —*
*пайду з гора да й утаплюся.*

Ад Надзеі Баўкун, 1928 года нараджэння, і Надзеі Гардзейчык, 1926 года нараджэння, вёска Грабяні гм. Дуброва Беластоцкая, запісаў у лютым 1977 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

## З народнай абраднасці. Шкодніцкая магія.




Часта ў шкодніцкай магіі носьбітамі няшчасця з'яўляліся ліхія вочы, інакш званыя кепскімі або чартоўскімі. Да чалавека, адоранага такімі вачыма, адносіліся з вялікім страхам і спачуваннем. Па сённяшні дзень бытуе перакананне, каб як мага пазбягаць такіх людзей, закрываць перад імі дзверы і абавязкова не дапускаць да хлявоў з маладой жывёлай, якая была найбольш падатная на злую сілу вачэй. Ліхія вочы выразна падзяляюцца на тры разрады: несвядома зласлівыя, злапажадальныя і чмутарскія.

Першымі былі адораны людзі наогул добрыя і, калі цярпеў ад іх другі чалавек, то зроблена гэта было без ніякай свядомасці. І таму да гэтых людзей часта адносіліся са спачуваннем. Як было ўжо сказана, найчасцей падатнымі на ўплыў кепскіх вачэй былі маладыя жывёліны і дзеці, але дзеці выключнай прыгажосці. Вынікам злога ўплыву вачэй быў боль жывата. Каб пазбегчы гэтага і забяспечыцца перад сурочаннем, на шыю маладой жывёліны завязвалі чырвоныя стужкі, а дзецям, якія мелі прабываць у асяроддзі нязнаных людзей (прыкладна гасціна або ў час хрысцінных абрад), накладалі навыварат вопратку, або завязвалі на руку істужкі. Калі аднак не асцерагліся і ўрок быў кінуты, існавала некалькі спосабаў на яго адрабленне. Яшчэ па сённяшні дзень бытуе перакананне, што хопіць сурочанага чалавека працягнуць тры разы праз хамут, пачынаючы з таго боку, якім накладаюць на галаву каню, выцерці кальсонамі гаспадара або працягнуць праз фартух гаспадыні — і ўрок будзе адроблены. Бытуе яшчэ таксама іншы спосаб. Найстарэйшае, або наймалодшае з дзяцей у сям'і дмухала на жывот сурочанага і сплёўвала тры разы за сябе. Дзейнасць гэтая паўтаралася таксама тры разы. Чалавек, ведаючы аб ліхасці сваіх вачэй, прабываючы ў асяроддзі, дзе знаходзіліся дзеці, стараўся ніколі іх не хваліць, а заўсёды называў брыдкімі.

Злапажадальнымі вачыма былі адораны людзі нядобразычлівыя, з ліхім сэрцам, якія свядома наносілі чалавеку шкоду. За пасрэдствам магічнага дзеяння сваіх вачэй пераносілі на чалавека ці на жывёлу задуманае злапажаданне. „Станэ тобіе такі над плуотом, — расказвае чалавек з Кленік, — і чым бы ты нэ йехав, возом чы ровэром, а всюровно штось станэцця. Чы то оглобля нэ дай нэ пуйді зломіцця, чы з ровэра впадэш". Да людзей са злапажадальнымі вачыма заўсёды адносіліся з вялікім страхам. Існавала перакананне, што ўсё, задуманае імі, за пасрэдствам вачэй пераносілася на тую асобу, на якую накіроўвалі свой позірк. „Продав я раз кобылу, — гаворыць інфарматар з ваколіц Бельска, — але ж чэрэз два тыжні прыйездждае той самы купэць і давай нарыкаті, што мов якую вы мніе кобылу продалі. Чым вы іх кормітэ? У мэнэ ніц йесті нэ хочэ! Отчыняю двэры коб сіена вкінуті чы овса путсыпаті, а вона просто на стіены скачэ. Я як добры дурэнь, взяв отчінів двэры до хліва той і показав свойе коні. Дівісь мов, чым я іх кормлю! І вуон оно туолькі пойехав, а моя жэруобка давай тое самэ робіті, што вуон росказував".

Паводле перакананя, найбольш аднак небяспечнымі вачыма з'яўляюцца вочы чмутарскія. Людзі з такімі вачыма мелі магчымасць пускаць на другіх чмут. Людзі часта прыпісвалі гэта цыганам з увагі на іх вялікі спрыт і магчымасць прадказвання будучыні. Па сутнасці аднак цыганы, агульна іх беручы, з людзьмі з чмутарскімі вачыма нічога супольнага не мелі. Калі цыганы мелі схільнасць да ашукоўвання іншых людзей, то чмутары наносілі страшэннае няшчасце. „То страшны людэ, — гаворыць інфарматар з ваколіц Кожына. — Росказовав колісь мніе муой діет, што нібыто давно-давно (ёму таксамо хіба росказовалі) было вэсіеле, на якое нэ попросілі такого одного чоловіека. То вуон со злості взяв і всіех вэсіельных в вовкуов позаміенював. Потуом ціелу зіму путходілі воны пуод плоты і жалосно-жалосно вылі. Але туолькі хтось оно з хатніх скрыпнэ двэрыма, коб йесті вынэсті, а всіе розбігутся. О, як было!".

Да нашых дзён усё гэта дайшло ў вельмі спрошчанай форме. Найчасцей яшчэ бытуе вераперакананне адносна злога ўплыву двух першых тыпаў вачэй. Астатнія засталіся толькі ўспамінам. Праўда, праіснавала гэта яшчэ да нашых дзён, але ўжо зусім у іншай форме. Часта ў чмутарстве абвінавачваюць (пераважна старэйшае пакаленне) тэлевізію і радыё. Адна інфарматарка з Нарвы гаворыць: „Бо то як чоловіек сядзе, то сядзіт і сядзіт і очэй одорваць не можэ. Відно оны якісь чмут пускают, ну бо як там дзесь далеко говорацъ, а ў нашой хаці мы чуем. То мусі якісь чмут". Але гэта выступае ўжо як элемент старога перакананя, перанесены на сучасную штодзённасць, якая для старых людзей з'яўляецца таемнай. Заўсёды ўжо так было, што ўсё, што новае, выклікала акрэсленыя рэакцыі, якія былі нічым іншым, як ціхім змаганнем дабра са злом, якое прыцягвала сваім дабрабытам.

**Янка Леанчук, Міхась Шаховіч**

## Гмінная прамысловасць

Надта цікавая тэма стаяла на апошняй сесіі Гміннай рады нарадовай у Нараўцы — каардынацыя супрацоўніцтва начальніка гміны з прадпрыемствамі. Справа ў тым, каб сінхранізаваць заданні розных прадпрыемстваў з гмінным гаспадарчым планам. У гэтым напрамку адбыліся тры нарады ў 1976 годзе і адна ў 1977 г. Стаялі наступныя праблемы:

1. Рэалізацыя грамадска-гаспадарчага плана гміны.
2. Пашырэнне кваліфікацыі працаўнікоў.
3. Падрыхтоўка да жніва і малацьбы.
4. Рэалізацыя грамадскіх прадукцыйных чыноў.
5. Рэалізацыя планаў угнаення зямлі і выкупкі збожжа.
6. Арганізацыя гмінных урачыстасцей.

Начальнік гміны тав. Ю. Навіцкі сказаў на сесіі, што каардынацыйнае супрацоўніцтва начальніка гміны з прадпрыемствамі, не падпарадкаванымі гміне, вядзецца добра.

І сапраўды, так ёсць у Нараўцы. Адміністрацыйнае і палітычнае кіраўніцтва прадпрыемстваў многа дапамагае гміне ў рэалізацыі яе планаў. Можна так пісаць аб цагляным заводзе ў Старым Ляўкове, ПКП у Семяноўцы, ГС, СКР, банку, надлясніцтве „Броўск", ЦПН і іншых. Хоць многа ў іх дасягненняў, вопыту і цікавых пачынанняў, многа яшчэ рэзерваў і патрэб. Вось некаторыя з іх. СКР у Нараўцы будзе вымушана сканцэнтравацца вакол арганізацыі тэрміновай і добрай абслугі сялян. ГС павінен пашырыць паслугі, прыдбаць скрынкі для скупкі яек, адкрыць новыя пункты продажу, між іншым, у Ляўкове. Надлясніцтва „Броўск" у Грушках больш рацыянальна будзе гаспадарыць на 700 га зямельных угоддзяў.

Кіраўніцтва паасобных прадпрыемстваў з заангажаваннем прыняло ўсе справы, накіраваныя ў іх адрас, і будзе іх рэалізаваць.

**А. З.**



## Па-сучаснаму

Калі ехаць з Гайнаўкі ў Бельск, на ўскраіне вёскі Збуч непадалёк ад шасейнай дарогі вабіць вочы цікавы і нетыповы ў гэтых старонках жылы дом. На высокім фундаменце стаіць, здаецца, квадратная драўляная будоўля без прывычных і так характэрных для нас простых шчытоў. Тут дах з чатырох бакоў наскасяк ідзе ўгару і спалучаецца ля самага грэбеня.

За домам — сучасная мураваная, прасторная абора.

Жыве тут Яўгеній Заброцкі — адзін з лепшых гаспадароў у вёсцы Збуч.

**(вр)**

Фота аўтара

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Як памагаць старым і самотным

Пад такім лозунгам адбыўся сход сацыяльнай камісіі гуртка № 3 ЗБоВіД у Беластоку.

Гурток гэты налічвае звыш сямісот членаў, а дзевяноста двума з іх трэба заапекавацца. Старшыня камісіі Юрка Грыгарук запрапанаваў, каб кожны з чатырнаццаці членаў камісіі ўзяў пад апеку па некалькі чалавек, пражываючых паблізу яго. Камісія з гэтым згадзілася і падзяліла паміж сабой раёны дзеяння.

Гурток ЗБоВіД № 3 займае вялікую частку горада Беластока, і сацыяльна-бытавой камісіі давядзецца прылажыць шмат працы, каб справіцца з заданнем, тым больш, што хворых і адзінокіх збавідаўцаў прыбывае.

**(пв)**

## Кузніца прыгажэе

Давялося пабываць мне некалькі разоў у Кузніцы. Быў я і ў гэтым годзе і аж здзівіўся, як Беластоцкая Кузніца становіцца штораз прыгажэйшая і культурнейшая.

Уязджаючы ў Кузніцу, бачым, што па правым баку вырас прыгожы жыллёвы пасёлак. Старыя будынкі аднаўляюцца, а на вуліцах пасаджаны дрэўцы і чыста.

Ужо некалькі гадоў, як пабудавалі прыгожы рэстаран, а ў ім культурная і ветлівая абслуга. На другім паверсе будынка станцыі ПКП знаходзіцца „Варс", там таксама прыемна.

Кузніца — гэта прыгранічнае мястэчка, праз якое многа людзей праязджае ў Савецкі Саюз, і, па-мойму, варта, каб мясцовыя ўлады пабудавалі тут гасцініцу ці матэль.

Калі хто-небудзь выязджае за мяжу нашай краіны і не зможа сесці на цягнік, то не мае дзе пераначаваць, а вымушаны сядзець на станцыі.

**М. Лук'янюк**

## З падарожжа

Чалавек, калі прызвычаіцца да мітусні вялікага горада, думае, што гэтак усюды. Аднак не. У ліпені давялося мне даволі доўгі час правесці ў Чорнай Беластоцкай. Там, сярод лесу, час бяжыць як бы павольней. Але людзі жывуць не горш, а прыгажэй. Нават хлеб смачнейшы пякуць, чым у горадзе.

Сёння хачу пару слоў сказаць аб тым, што ўбачыў я ў Чорнай Беластоцкай і што мяне ўзрадавала. Аднойчы, ідучы ў гміну, сустрэў я вялікую групу дзяцей, якія з увагай слухалі лекцыю каменданта пажарнай аховы. Эдуард Лапінскі паказваў дзецям шмат пажарных прыладаў і паясняў іх прызначэнне ды спосаб карыстання. Пасля лекцыі адбыўся конкурс з узнагародамі. Усе дзеці падымалі рукі, гатовыя адказаць на пытанні. У конкурсе прыняло ўдзел 15 школьнікаў, якія выдатна адказалі на пастаўленыя пытанні. Усе 15 атрымалі спецыяльныя значкі і кніжкі „Чатыры танкісты і сабака".

Добра, што растуць людзі разумныя і адукаваныя. Але сказаць тут хачу і пра старэйшых, якія стымулююць гэта, між іншым такіх, як Ірэна Галко, якая гэтае мерапрыемства ў Чорнай Беластоцкай арганізавала .

**В. Петручук**




*Шчасце?*
*Не знаю яго.*
*Пэўна бывае толькі на паперы.*
*Каханне?*
*І гэта я пеpажыла,*
*Цяпер у яго не веру.*
*Жыццё?*
*Знаю яго добра.*
*Гэта цяг розных дзён.*
*Мары?*
*Многа мару.*
*Мае мары — гэта ты.*

**Зорма**

## Зялёнае святло паслугам!

Як прадстаўляецца справа паслуг і развіццё рамяства ў Гайнаўцы? З такім пытаннем звярнуўся я да намесніка дырэктара гайнаўскага аддзела Ваяводскай паслуговай спулдзельні працы — Івана Панькоўскага. Вось у скарачэнні яго адказ.

„У нашым кааператыве можна зрабіць амаль усё: пашыць мужчынскую і жаночую вопратку, маладзёжную і дзіцячую таксама; хімічна пачысціць бялізну і розную вопратку; заказаць новы абутак і адрамантаваць стары; уставіць вокны; купіць гатовыя пустакі і цэмбравіны; выканаць аконныя рамы, зрабіць сталярку, разрэзаць дрэва на дошкі. Выконваем таксама розныя працы ў кватэрах; робім помнікі на магілы.

У 1975 годзе выканалі мы паслуг на суму 5.215.000 зл., а ў 1976 годзе на 6.650.000 зл. На 1977 год планы зноў узраслі на 37 прац. і дасягаюць сумы 8.000.000 зл.

Дырэкцыя гайнаўскага аддзела працавіта ўзялася за рэалізацыю высокага плана паслуг. Як паінфармаваў дырэктар аддзела Мікалай Сапежка, ужо ў першым квартале г.г. былі адкрыты новыя прадукцыйныя паслуговыя пункты: на вуліцы Варынскага — пункты кравецтва, шавецтва і шклярства, на вуліцы Леніна — пункт дамскага кравецтва.

У Нараўцы і Дубінах працуюць сталярскія пункты, у Кляшчэлях — бетанярскі, у Гайнаўцы — адзежавы. Разам у гэтых пунктах працуе 100 чалавек".

**Э. Вайсковіч**

## З Гайнаўкі родам

У спулдзельні інвалідаў „Постэмп" у Гайнаўцы працуе спартыўны гурток, які налічвае 42 члены. Старшынёй з'яўляецца Юры Балжэцкі.

У VI ваяводскай спартакіядзе па лёгкай атлетыцы ў Ломжы ў 1975 г. актыў гайнаўскай спулдзельні заняў I месца.

У бягучым годзе ў VIII спартакіядзе інвалідскай спулдзельні ў Супраслі спартыўна-турыстычны гурток з гайнаўскай спулдзельні ў дружыновых спаборніцтвах заняў I месца. Індывідуальна першыя месцы ў сваіх групах з Гайнаўкі заваявалі: Тарэса Чаркоўская, Ірэна Гарасімовіч, Клаўдзія Зяневіч.

Гайнаўскі гурток мае актыўных дзеячоў, вось хаця б, як Багдан Грыневіч. Таксама праўленне стараецца, каб спорт развіваўся. Арганізуе сустрэчы з моладдзю ў школах, дэманструе фільмы аб спорце ў Польшчы, аб алімпійскіх гульнях, аб спартсменах. Такія дысцыпліны спорту, як лёгкая атлетыка, шахматы і шашкі заваявалі трывалае месца ў жыцці спартсменаў „Пастэмпу".

**(гай)**







*Разьба ў гонар праф. Вітальда Славінскага.*

## Працы маладых мастакоў

У 1973 годзе мгр Войцех Залэнскі, дырэктар аддзялення малых форм у Супрасльскім мастацкім ліцэі, будучы членам Таварыства прыяцеляў Супраслі, рашыў пераканаць дырэкцыю школы і гарадскія і гмінныя ўлады, каб па-новаму прыстроіць горад — у яго краявід увесці новы элемент. Гэтым новым былі б арыгінальныя скульптуры, запраектаваныя і выкананыя ў дрэве вучнямі апошняга класа ліцэя. Лічыліся б яны дыпломнай працай ліцэістаў. А гораду яны іх падарылі б.

Першыя дзве разьбы выкананыя ў 1973 г., паставілі на дарозе Супрасль — Агароднічкі. Адну выканаў асабіста мгр Войцех Залэнскі, а другую, пад яго кіраўніцтвам — А. Самойлік. Потым паступілі наступныя працы вучняў: на плошчы Дзяржынскага — разьба Аляксандра Гжыбка, на Займе — Аляксандра Букоўскага і дзве апошнія, выкананыя ў бягучым годзе, якія найбольш і прыцягваюць турыстаў. Гэта пастаўленыя на ўзгорку на вул. Канарскага два помнікі. Адзін — Веслава Валкускага, прысвечаны памяці забітых у Супраслі і ваколіцы ў 1939-44 жыхароў, другі — Здзіслава Парчынскага, прысвечаны памяці праф. Вітальда Славінскага, які даследаваў гэтыя ваколіцы і ў ваколіцы Цілічанкі адкрыў баравіну.

**(гай)**

## Бельская — сельская...

Сістэматычна павялічваецца адкорм парсюкоў у Бельскім СКР. У пабудаваным у Шасталах свінарніку адкормліваецца 412 штук, а ў 50-ці кааператараў, якія супрацоўнічаюць з СКР, яшчэ 591 штука.

У гэтым годзе пачынаецца будова новых 4 свінарнікаў у Шасталах. Трэба дадаць, што ў Бельску вядзецца гадоўля пародзістых курэй, іх цяпер звыш 6.600 штук. Уся прадукцыя ідзе на краёвы рынак. Такім чынам, бельскі СКР і ў гадоўлі пачынае быць камбінатам.

*

Бельскі СКР уладае 333 га зямельных угоддзяў. Зямля знаходзіцца ў 9 вёсках і ў звыш 100 пунктах. У гэтым годзе пасеялі яны на гэтых палях 10 га цукровых буракоў, 15 га бульбы, некалькі га матыльковых для патрэб уласнай гадоўлі. На астатняй плошчы пасеялі збожжа. Да ўборкі збожжа ў СКР-ы і індывідуальных гаспадароў прыступіла ў гэтым годзе 13 камбайнаў (у тым ліку 6 „Бізонаў") і 60 снопавязалак, гэта больш, чым у мінулым годзе.

*

Гміна Бельск з'яўляецца адной з самых вялікіх гмін у Беластоцкім ваяводстве. Плошча яе — 417 кв. км. У ёй 57 вёсак і 32.245 га палёў і лугоў. Індывідуальныя гаспадары ўладаюць 29.216 га, ПГР-ы — 1877 га, РСП — 819 га і СКР-ы — 333 га.

Многія гаспадары пачалі ўжо ўводзіць спецыялізацыю ў гадоўлі і апрацоўцы зямлі. У гэтым годзе ў гадоўлі кароў спецыялізуецца 28 гаспадароў, а ў гадоўлі свіней — 11 гаспадароў. Таксама працуюць ужо групы гаспадароў па гадоўлі кароў (19 груп), і свіней (4 групы).

У недалёкай будучыні будзе пабудаваны доследны кароўнік у Райску — на 500 кароў, ды цялятнік у Парцаве — на 400 цялят.

**Мікалай Няплоха**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У Драгічыне ў гаспадара згарэла драўляная стадола, пакрытая саломай, поўная была свежага сена. Прычынай пажару, як мяркуюць, была гульня 5-гадовага сынка гаспадара з запалкамі паблізу будынку.

Па дарозе з Гайнаўкі ў Арэшкава ехаў „Шкодай" бацька з двума малымі дзяцьмі. У выніку неасцярожнасці на павароце самаход перакуліўся ўверх дахам. Толькі сын меў зламаную нагу.

На адрэзку чыгункі Беласток Стадыён — Беласток Цэнтральны пасажырскі поезд наехаў на чалавека — смерць на месцы. Чалавек пераходзіў чыгунку ў недазволеным месцы.

На шашы Беласток — Аўгустоў аўтамашына „Шкода" падбіла 11-гадовую дзяўчынку, якая нечакана выбегла на дарогу з-за стаячага на прыпынку аўтобуса. Дзяўчынка загінула.

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „НЕ ВЕДАЕ ПРАВАЯ, ШТО РОБІЦЬ ЛЕВАЯ", „Ніва" № 25/1112 ад 19 чэрвеня 1977 года.**

**Адказвае:** BIAŁOSTOCKI ZWIĄZEK SPÓŁEK WODNYCH BIURO W BIAŁYMSTOKU.

W nawiązaniu do notatki prasowej z 25/1112 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 19 czerwca 1977 roku w sprawie obciążenia osiemnastu rolników wsi Słoja opłatami za konserwację rowów, Białostocki Związek Spółek Wodnych Biuro w Białymstoku uprzejmie informuje, że wszystkie należności wymierzane są na podstawie wykazów sporządzonych przez Urzędy Gmin. Rolnicy wsi Słoja zobowiązani do opłacenia przedmiotowej należności byli wymienieni w takim wykazie. Wszystkie zmiany użytkowników i wielkości obszaru mogą być wprowadzane tylko przez Urzędy Gmin, które na ogół nie informują Białostocki Związek Spółek Wodnych o tych zmianach. Z tego powodu niejednokrotnie powstają rozbieżności o jakich pisano w notatce zamieszczonej w „Niwie" z dnia 19 czerwca bieżącego roku.

Unormowanie tej sprawy z Urzędami Gmin jest obecnie przedmiotem prac Zarządu BZSW oraz odpowiednich komórek Wojewódzkiego Zarządu Inwestycji Rolniczych.

Kierownik
mgr inż. Jerzy Pączkowski

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.



 

